**№245 (1808)**

Аўторак, 23 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -4...-2 уначы — -11...-9; у Брэсце ўдзень — -2...0, уначы — -7...-5; у Гродне ўдзень — -3...-1, уначы — -9...-7; у Віцебску ўдзень — -4...-2, уначы — -10...-8; у Гомелі ўдзень — -2...+0, снег, уначы — -6...-4; у Магілёве ўдзень — -3...-1, уначы — -10...-8.

На астатняй тэрыторыі на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**КАНФЛІКТ**

## З'езд ці зборышча?

Як паведаміла інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, у Мінску прайшоў пазачарговы з'езд Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Прайшоў ён пры беспрэцэдэнтных мерах бяспекі і без удзелу журналістаў. Як патлумачыў Сяргей Гайдукевіч, гэта было зроблена ў мэтах прадухілення магчымых правакацый з боку ўнутрыпартыйнай апазіцыі.

У той жа час члены Вышэйшага савета ЛДП А.Рабатай, А.Маркевіч, А.Курс і старшыня рэвізійнай камісіі партыі А.Казырыцкі распаўсюдзілі заяву, у якой сцвярджаецца, што з'езд нельга лічыць легітымным: *"В целях срыва процесса своего отстранения с поста председателя ЛДП г-н Гайдукевич, пренебрегая мнением членов партии, стал на путь раскола ее рядов. Именно по его личной инициативе с грубыми нарушениями предписания Министерства юстиции 20.12.2003 г. состоялся так называемый внеочередной съезд ЛДП. Небольшая группа людей (примерно 130 человек) в полуконспиративных условиях за закрытыми дверями конференц-зала "Белинтуриста" присвоила себе право решать судьбы тысяч членов ЛДП без их ведома и участия. Это нелегитимное собрание почему-то тщательно охранялось силовыми структурами от представителей средств массовой информации.*

*Кого так боялся Гайдукевич и лично отфильтрованные им подельщики на свой сомнительный шабаш? Что они скрывали от белорусской общественности и рядовых партийцев за закрытыми дверями? Где традиционная помпезность и величественный размах былых съездов самой многочисленной политической структуры страны?*

*Все это закончилось, когда настоящие делегаты 8-го съезда ЛДП 6 сентября 2003 года проголосовали за отстранение Гайдукевича с поста председателя ЛДП". Причины известны: авантюризм, беспринципность, патологическая ложь, переплетающаяся с провокациями, незаконное присвоение партийных средств, необузданный вождизм и так далее. 20 декабря 2003 года стал днем подтверждения для этого господина и его компании окончательного их нравственного и политического банкротства. Поэтому происходящее скрывалось от общественности".*

Нагадаем, што папярэдні з'езд ЛДП, што адбыўся 6 верасня, завяршыўся расколам у партыі. Трое з шасці членаў Вышэйшага савета ЛДП — Алег Маркевіч, Аляксандр Рабатай і Андрэй Курс — выказалі вотум недаверу Сяргею Гайдукевічу і прапанавалі ўвесці ў партыі трыумвірат. Узначальваць ЛДП, на іх думку, павінны былі разам з Сяргеем Гайдукевічам Аляксандр Рабатай і Алег Маркевіч. Пасля гэтага С.Гайдукевіч тады пакінуў з'езд і павёў за сабой прыхільнікаў. Астатнія дэлегаты прадоўжылі працу і пераабралі Вышэйшы савет партыі, у які Сяргей Гайдукевіч не быў уключаны. Аднак 17 верасня Міністэрства юстыцыі не прызнала вынікаў гэтага з'езда і на тры месяцы ўвяло мараторый на дзейнасць партыі па некаторых аспектах. Мінюст таксама рэкамендаваў ЛДП кіравацца ў сваёй дзейнасці статутам партыі.

На з'ездзе, які адбыўся днямі, усе трое апанентаў Гайдукевіча — Маркевіч, Рабатай і Курс — былі выключаны з партыі. Самі яны на з'ездзе не прысутнічалі.

"Народная воля" вырашыла звязацца з абодвума бакамі канфлікту і вось якія атрымала каментарыі:

### *Сяргей ГАЙДУКЕВІЧ:* «Усё ідзе, як трэба ісці»

— Тое, што мяне пераабралі старшынёй партыі, — нічога ў гэтым дзіўнага няма. Так і чакалася.

**— Ці прысутнічаў на з'ездзе прадстаўнік Міністэрства юстыцыі?**

— Я не ведаю.

**— Ці праўда, што на з'езд не пускалі журналістаў?**

— Гэта наша права — пускаць альбо не пускаць журналістаў. На з'ездзе мы вырашаем нашы ўнутраныя пытанні. Прымаем рашэнні, потым адкрыта выходзім да журналістаў... Калі ласка, атрымлівайце інфармацыю. Вы гэта ведаеце па прыкладзе расійскіх каналаў... Нагул, усё нармальна. Зацверджана праграма партыі, яе статут, усяго разгледжана сем пытанняў, абраны Вышэйшы савет партыі, рэвізійная камісія. Усё ідзе, як трэба ісці.

### *Алег МАРКЕВІЧ:* «Можа, бен Ладэн хацеў зрабіць замах на Гайдукевіча?»

— Гэта быў не з'езд, а зборышча. І я так лічу па многіх прычынах — перш за ўсе, па юрыдычных. Палітычная секта на чале з Гайдукевічам засталася вернай сабе ў плане фальсіфікацый, махлявання фактамі. Гайдукевіч — гэта палітычны шулер, які спрабуе выдаць жадаемае за існуючае... Па-першае, пазачарговы з'езд партыі мог быць склікаены толькі па ініцыятыве членаў Вышэйшага савета партыі. Гэта прапісана ў статуце.

**— Вы і іншыя кіраўнікі партыі адсутнічалі на з'ездзе таму, што проста не пайшлі, альбо вас не пусцілі?**

— Па-першае, калі б мы з'явіліся на так званым з'ездзе, то такім чынам пацвердзілі б яго легітымнасць. Па-другое, таварыш Гайдукевіч распачаў яго за некалькі гадзін да запланаванага раней часу. І чаму з'езд ахоўвалі сілавыя структуры? Мы задаёмся таксама пытаннем — як Гайдукевічу ўдалося прыцягнуць прадстаўнікоў сілавых структур, некаторыя з якіх у гэты дзень, магчыма, адзначалі прафесійнае свята? Можа, бен Ладэн хацеў зрабіць замах на Гайдукевіча?

**— Вы давялі сваю інфармацыю да Мінюста?**

— Так. Мы перадалі праз канцылярыю ліст пра ўсе юрыдычныя парушэнні, якія былі дапушчаны падчас склікання і правядзення з'езда.

**— Якія гэта парушэнні, акрамя ўжо акрэсленых?**

— З'езд не мог быць скліканы без рашэння Вышэйшага савета, без зацвярджэння вынікаў канферэнцый на месцах — саветамі абласных, раённых, гарадскіх арганізацый, а таксама пярвічнымі структурамі... Гайдукевіч, які хваліўся, што за ім стаяць многія тысячы людзей, здолеў сабраць на сваё зборышча менш як 150 чалавек. Нават залу не здолеў запоўніць. А журналістаў не пусцілі у хол пагрэцца! "Упэўнены ва ўсім" Гайдукевіч нават не выйшаў да журналістаў.

**— Якія мэты праследаваў, на Ваш погляд, спадар Гайдукевіч?**

— Гайдукевіч праследуе толькі адну мэту — раскалоць партыю і захаваць за сабой уладу ў ёй. Авантурызм, беспрынцыпнасць, паталагічная хлусня, правакацыі даўно сталі неад'емнымі рысамі Сяргея Гайдукевіча.

***

Вось такая калізія, створаная ліберал-дэмакратамі Беларусі. Міністэрству юстыцыі, думаецца, давядзецца паламаць галаву, каб расставіць кропкі над "і". Мне вядома, што ўжо пачалася працэдура праверкі спісаў членаў партыі, прадстаўленых як адным бокам, так і другім. Давядзецца адказаць і на пытанне, што ж на самай справе адбылося ў мінулую суботу — нечарговы з'езд ЛДП альбо незаконнае зборышча прыхільнікаў С.Гайдукевіча?

**Мікалай ГАК.**

## Кветкі Адаму Міцкевічу

24 снежня з нагоды 205-й гадавіны з дня нараджэння вялікага паэта Адама Міцкевіча пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Тадэуш Паўляк і супрацоўнікі пасольства ўскладуць кветкі ля помніка вешчуна. Урачыстасць адбудзецца ў 13.00 гадзін з удзелам запрошаных прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса, прадстаўнікоў мясцовых уладаў і мясцовай польскай этнічнай меншасці.

Стараннямі Саюза палякаў у Беларусі адбудзецца таксама цырымонія асвячэння помніка, урачыстае адкрыццё якога адбылося з удзелам маршала Сената РП Лёнгіна Пастусяка і старшыні Савета Рэспублікі РБ Генадзя Навіцкага на пачатку кастрычніка.



**ПУЛЬС**

## 29 снежня ААТ «Белтрансгаз» правядзе першы агульны сход акцыянераў

Паводле інфармацыі прадпрыемства, у парадак дня сходу акцыянераў уключаны пытанні наконт унясення змяненняў і дапаўненняў у статут ААТ "Белтрансгаз", справаздачы аб выніках дзейнасці прадпрыемства за дзевяць месяцаў 2003 года і асноўных задач таварыства на 2003—2004 гады. Апрача таго, акцыянеры зацвердзяць накірункі выкарыстання чыстага прыбытку, атрыманага за дзевяць месяцаў 2003 года.

На сходзе таксама чакаецца абранне членаў назіральнага савета і рэвізійнай камісіі ААТ "Белтрансгаз", зацвярджэнне гадавой сумы сродкаў, якія накіроўваюцца на дабрачынную дзейнасць і бязвыплатную дапамогу, а таксама ўмоў і сумы ўзнагароджання членаў назіральнага савета і рэвізійнай камісіі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Мінскі аўтамабільны завод перавыканаў усе прагнозныя паказчыкі

За студзень—лістапад 2003 года Мінскі аўтамабільны завод рэалізаваў таварнай прадукцыі (у супастаўных цэнах) на 636 млрд. 985,7 млн. беларускіх рублёў, што складае 108,9 працэнта ад ўзроўню гэтката ж леташняга перыяду.

Як паведамілі БелаПАН у цэнтры грамадскіх сувязей МАЗа, аўтамабіляў выраблена і адгружана спажыўцам 15.367 штук. За аналагічны перыяд мінулага года было выраблена 14.184 адзінак аўтамабільнай тэхнікі. Вытворчасць аўтамабіляў вырасла на 8,3 працэнта.

Мінскаму аўтазаводу таксама ўдалося ліквідаваць адставанне ў вытворчасці аўтобусаў, дапушчанае ў першым квартале гэтага года. Аўтобусаў выраблена і адгружана 439 адзінак, што на 7 адзінак больш, чым за 11 месяцаў мінулага года. Рост склаў 1,6 працэнта.

Прычэпаў і паўпрычэпаў рэалізавана за разгледжаны перыяд 3770 адзінак, што на 17,9 працэнта больш у параўнанні з 11 месяцамі 2002 года, калі было рэалізавана 3198 адзінак прычапной тэхнікі.

**Аляксей АРЭШКА.**

**ЗДАРЭННІ**

## Беларускай грамадзянцы аказваў дапамогу наследны прынц Бельгіі Філіп

*У мінулую суботу ў 5.30 раніцы па сярэднееўрапейскім часе на мяжы Бельгіі і Францыі адбылася буйная аварыя турыстычнага аўтобуса. На думку экспертаў, гэта самая сур'ёзная аўтобусная аварыя ў Еўрасаюзе за апошнія 10 гадоў, а інфармацыйныя агенцтвы адразу ж перадалі: "Турыстычная група была "інтэрнацыянальнай": там ехалі беларусы, расіяне, украінцы, харваты, туркі, баснійцы, адзін амерыканец і група манголаў, якія жывуць у Германіі"...*

— Па нашай інфармацыі, у аўтобусе знаходзілася толькі адна грамадзянка Беларусі, — паведаміў учора карэспандэнту "Народнай волі" прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных. — Яна асабліва не пацярпела, і ёй была аказана медыцынская і псіхалагічная дапамога.

Дарэчы, паводле паведамлення бельгійскіх улад, на месцы катастрофы пабываў і наследны прынц Бельгіі Філіп. Члены каралеўскай сям'і заўсёды ўдзельнічаюць у аказанні псіхалагічнай і матэрыяльнай дапамогі пацярпелым у стыхійных бедствах і аварыях.

Усяго ж у аўтобусе знаходзілася 47 турыстаў з гідам і два зменных вадзіцелі. Машына, якая ішла з Мюнхена, урэзалася ў бетонную агароджу і загарэлася ля КПП на мяжы ў раёне горада Ансі.

Па сведчанні відавочцаў, аўтобус матляла з боку ў бок. Затым ён нейкі час "цёрся" кузавам аб бетонную агароджу, у выніку чаго ўспыхнуў пажар, які затым ахапіў увесь аўтобус. На шчасце, другі вадзіцель паспеў ачыніць заднія дзверы і дапамог эвакуіраваць 37 чалавек. Па адной з версій, вадзіцель, які кіраваў машынай, адчуў сябе дрэнна і страціў кіраванне.

Падчас аварыі загінулі 12 чалавек.

**Алесь СІВЫ.**

**НАБОЛЕЛО!**

### *Владимир БЕЛЫХ,* *председатель профкома проектного унитарного предприятия «Гипроживмаш»:*

## «Не то время, чтобы всех и вся водить на коротком поводке»

*Сегодня, 23 декабря, — внеочередной съезд профсоюза работников автосельхозмашиностроения. Делегаты форума обсудят ситуацию вокруг намерения ФПБ во что бы то ни стало выполнить указание и обезглавить профсоюз автосельхозмаша. Своими мыслями делится председатель профкома проектного унитарного предприятия "Гипроживмаш" из Гомеля* ***Владимир БЕЛЫХ****.*

**— Владимир Васильевич, прежде всего хотелось бы услышать ваше мнение по поводу роли профсоюзов в нынешней жизни. Ведь изначально профсоюзы призваны защищать интересы людей наемного труда. И не важно, кто они — рабочие, научные сотрудники или, как у вас, проектировщики.**

— Действительно, профсоюзы должны быть главной общественной организацией, защищающей интересы людей труда. Однако путем варьирования законодательством, принятием различных постановлений профсоюзы лишились многих исконных своих прав и полномочий. Вспомним хотя бы проблему оздоровления. Решение ее просто отобрали у профсоюзов.

Через коллективные договора профсоюзы должны научиться отстаивать всевозможные социальные гарантии для своих членов. Вот мы, к примеру, заложили в своем коллективном договоре, что наши сотрудники должны ежемесячно получать в определенное число и аванс, и получку. Дирекция старается. Ни разу еще не нарушался этот порядок. Сбалансированность в отношениях между нанимателем и профсоюзом должна быть обязательно. Потеря профсоюзами функции баланса обязательно взращивает автократов — больших и малых размеров.

**— "Гипроживмаш" входит в профсоюз АСМ. Скажите, вы чувствуете роль своего отраслевого профсоюза? Или ФПБ оказывает на вас большее влияние?**

— Скажу откровенно: роль Федерации я вообще не чувствую, не ощущаю даже. Есть она или нет, чем занимается, что решает... Что делает, к примеру, председатель ФПБ Леонид Козик, нам неизвестно.

На региональном уровне не чувствуется особого влияния и областного объединения профсоюзов.

Я работаю с профсоюзом АСМ, его Советом и зачастую даже напрямую с председателем Александром Бухвостовым. Скажу честно: для меня и моих коллег Бухвостов олицетворяет самостоятельную позицию в профсоюзном движении, которую должен проявлять лидер и которая, если уж откровенно, не всякому по плечу. Бухвостов — открытый, доступный, бескорыстный. И что главное — порядочный. Он — не греб, не хапал себе, не отгораживался кабинетами, саунами, служебными иномарками. В нем нет и намека не лизоблюдство. Он честно делает то, ради чего мы его избирали. Причем у него нет особого различия между крупными организациями, как МАЗ, и нашей, небольшой. Он видит и наши проблемы. Может быть, кому-то хотелось бы большего. И я бы не прочь. Но вы посмотрите, в каких условиях вынуждены работать профсоюзы. Их разваливали, лишали финансовой поддержки. Чей голос в защиту рабочих был слышен в этой ситуации? Профсоюза АСМ! Ну, может быть, еще одного либо двух таких профсоюзов — и все. Так что теперь, за принципиальную позицию человеку нужно плюнуть в лицо? До какой же низости надо докатиться, чтобы совершить подобное.

**— Складывается впечатление, что на съезд вы отправляетесь с ясным представлением, что делать и как поступать?**

— Я этого не скрываю! Более того, я получил наказ от нашей профсоюзной организации — сохранить независимость профсоюза АСМ. Этот наказ я должен не только озвучить на съезде, но и приложить максимум усилий, чтобы его выполнить.

Не знаю, однако, какими соображениями руководствовались некоторые члены Совета АСМ, когда голосовали за созыв внеочередного съезда. Цель кое-кого очевидна: попытаться сместить с должности председателя Александра Бухвостова. Я вообще не понимаю, как такие люди могут смотреть в глаза Бухвостову. Не секрет, что, благодаря Бухвостову, ряд голосовавших, собственно, стали во главе профсоюзных коллективов, обучились профсоюзному делу.

**— Вы полагаете, что это остановит "раскольников"? Они же поют с чужого голоса, вам ли этого не знать?**

— Я все-таки надеюсь, что в людях осталось хоть что-то человеческое. Совесть, прежде всего. Уничтожив собственную организацию, у другой иной они покоя и авторитета не приобретут. Перебежчик — вообще штука одноразового использования. Его нигде не уважают. Да и начальству угождать перебежчикам придется каждый раз с возрастающим усердием. Это — аксиома подлости.

Есть даже такое слово в славянской истории — выкрест, то есть человек, который в угоду меркантильным, карьерным соображениям меняет вероисповедание.

Но большинство людей, я считаю, порядочные, имеющие свое достоинство. И на съезде они не должны молчать, не должны отсиживаться по принципу: моя хата с краю. Хаты с краю нет! Везде передовая. Нас к этому вынуждают. А коль так, мы и должны сказать, зачем нужен независимый профсоюз автосельхозмаша и председатель Александр Бухвостов.

Лично я убежден: если посадить кого-то другого в кресло председателя профсоюза АСМ, он тут же начнет делать себе карьеру, приспосабливаться. Чего изволите? В конце концов, и профсоюз пойдет прахом.

Бухвостов себе карьеры не делает. Он работает. У него такой характер. Не гнуться, не ползать, а отстаивать интересы людей труда. Это его состояние, его предназначение. Такой лидер нужен профсоюзу АСМ!

**— Некоторые официальные апологеты утверждают, что, дескать, Бухвостов со своим характером виноват в том, что на профсоюз АСМ идет такой накат. А что вы думаете по этому поводу?**

— Я повторяю: Бухвостов — на своем месте. И дело вовсе не в нем. Когда в экономике не все ладится, не все можно решить, наниматель (а это и государство со своими предприятиями) стремится встречать как можно меньше сопротивления со стороны людей наемного труда. Стремится иметь за ними как можно больший контроль. Раздражает любое несогласие. Однако умный наниматель поступает по-иному. Он стремится сохранить профсоюзы. Умному нанимателю легче работать с организованными людьми, нежели с разнородными группами, которые выставляют различные требования. Мы общались с представителями профсоюзов Германии, Швеции и знаем об этом. За профсоюзами — коллективы, а не толпы. Западные наниматели предоставляют профсоюзам многое, лишь бы работать с ними в контакте.

**— А что если ваше мнение и мнение других, кто думает так же, на съезде услышано не будет?**

— Считаю, что большинство людей, которых избрали на съезд, не потеряли здравый смысл. Не будет Бухвостова, пойдет цепная реакция, и многие лишатся своих мест. Начнется брожение. В коллективы придет, безусловно, Свободный профсоюз. Произойдет, на мой взгляд, самоорганизация. Уже не то время, чтобы всех и вся водить на коротком поводке. Наказ нашей профсоюзной организации еще раз это подтверждает.

**Беседовал Анатолий ИВАНОВСКИЙ.**

**ВЕНА — МИНСК**

## Кто прессингует «Народную волю»?

*Такой вопрос вытекает из письма представителя по вопросам свободы средств массовой информации ОБСЕ Фраймута Дуве министру иностранных дел Беларуси Сергею Мартынову*

Фраймут Дуве, представитель по вопросам свободы средств массовой информации Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе (ОБСЕ), прислал главе МИД Беларуси Сергею Мартынову письмо, в котором выразил свою крайнюю обеспокоенность относительно "действий, предпринятых в Минске против крупнейшей негосударственной газеты страны "Народная воля". Причем, как подчеркивает г-н Дуве, информация о гонениях против нашей газеты получена им из "большого количества источников".

Информируя в подробностях Сергея Мартынова о судебном процессе, который инициировал против "Народной воли" председатель Белтелерадиокомпании Егор Рыбаков, эксперт из ОБСЕ отмечает: *"несмотря на то, что не было предъявлено никаких новых фактов в апелляции Рыбакова, с которой он обратился в Минский городской суд, последний решил удовлетворить требования Рыбакова и увеличить сумму иска".*

*"Изначально Рыбаков требовал от "Народной воли" опубликовать опровержение и извинения журналистов,* — напоминает Мартынову Дуве, и здесь же интересуется, — *может быть, Вы объясните мне, почему требования Рыбакова выросли столь стремительно?"*

*"Наиболее тревожным моментом в действиях Рыбакова,* — продолжает г-н Дуве в своем письме к министру иностранных дел, — *является то, что он собирается и в дальнейшем предъявлять судебные иски против других негосударственных СМИ".*

Дальше европейский эмиссар, словно учитель нерадивому ученику, преподает белорусскому министру настоящий урок: *"Как представитель ОБСЕ по вопросам свободы массовой информации я снова и снова повторяю Вам свою позицию о том, что в условиях демократии написание статей о деятельности государственных чиновников, таких как Егор Рыбаков, — это* **журналистская профессиональная обязанность**. *И в любом случае сумма компенсации за любой случай клеветы в их адрес должна быть соответствующей нанесенному ущербу и не должна отбивать всякую охоту у журналистов писать критические материалы в дальнейшем".*

В заключение своего послания Фраймут Дуве информирует г-на Мартынова о возмутительном случае снятия рекламных листовок "Народной воли" в столичном метро по указанию чиновников Мингорисполкома. *"Причина, по которой листовки были сняты,* — пишет г-н Дуве, — *состоит в том, что на листовке якобы не было указано полное название газеты. Я видел листовку "Народной воли" и констатирую, что это неправда. Это действие, предпринятое вашим правительством, видится мне еще одним негативным шагом, который госсекретарь США Колин Пауэл назвал в Маастрихте "систематической кампанией против независимых СМИ в Беларуси".*

Судя по отсутствию какой-либо информации, касающейся нашей газеты, на официальном сайте МИДа Беларуси, Сергей Мартынов пока не придумал, что ответить чиновнику из ОБСЕ.

**Александр СИЛИЧ.**

**ЭКАНАМІЧНЫ БАРОМЕТР**

## Будзем атрымліваць газ па новых цэнах?

З 1 студзеня 2004 года Беларусь будзе атрымліваць прыродны газ з Расіі па новых цэнах, калі да канца года Расія і Беларусь не дасягнуць згоды аб стварэнні сумеснай газатранспартнай кампаніі. Пра гэта, як паведамляюць расійскія інфармацыйныя агенцтвы, заявіў кіраўнік расійскага ўрада Міхаіл Касьянаў.

Паводле яго слоў, калі згоды дасягнуць не ўдасца, "цэны на расійскі газ для Беларусі будуць устаноўлены на ўзроўні цэн, якія існуюць для Украіны". Пры гэтым цэны за транзіт расійскага газу цераз беларускую тэрыторыю таксама будуць перагледжаны на аснове прынцыпу, па якім фарміруюцца цэны за транзіт па ўкраінскай тэрыторыі. "Калі ж сумеснае прадпрыемства з Беларуссю будзе створана, то Беларусь будзе атрымліваць газ па цэнах унутрырасійскага пятага пояса", — сказаў М.Касьянаў.

Нагадаем, што Украіна плаціць ААТ "Газпрам" каля 50 долараў ЗША за тысячу кубічных метраў прыроднага газу. З 1 мая 2002 года "Газпрам" пастаўляў у Беларусь газ па 660 расійскіх рублёў за тысячу кубічных метраў, з 1 ліпеня 2002 года — па 760 рублёў, з 1 студзеня 2003 года — па 912 рублёў (каля 30 долараў ЗША) за тысячу кубаметраў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## МВФ прапануе ўладам зменшыць умяшанне дзяржавы ў дзейнасць банкаўскай сістэмы

Пра гэта гаворыцца ў заяве для прэсы па выніках спецыяльнай місіі фонду, якая працавала ў Беларусі ў снежні. Місія адзначыла, што банкаўская сістэма Беларусі па-ранейшаму застаецца ўразлівай для шокаў у сувязі з яе структурнымі недахопамі. Такімі недахопамі названы: вялікае ўмяшанне дзяржавы і залежнасць банкаў ад падтрымкі і крэдытаў урада; нестабільнасць прававой сістэмы; слабасць карпаратыўнага кіравання і нізкая рэнтабельнасць; высокая канцэнтраванасць банкаўскага рынку і нізкае развіццё нябанкаўскіх фінансавых інстытутаў; адсутнасць роўных умоў гаспадарання для ўдзельнікаў рынку, аб чым сведчыць, напрыклад, практыка прадастаўлення льгот пры невыкананні нарматыўных патрабаванняў. Акрамя таго, негатыўным момантам у МВФ называюць адхіленне нацыянальнай практыкі справаздачнасці ад міжнародных стандартаў.

Місія МВФ "настойліва рэкамендавала ўладам спыніць практыку, калі банкаўскай сістэме робяцца ўказанні па стымуляванні росту ў пэўным сектары праз правядзенне квазі-бюджэтных аперацый па субсідзіраваных працэнтных стаўках, і прадастаўлення гарантый урада, паколькі якасць выдзяляемых такім чынам крэдытаў можа быць сумніўнай".

Разам з тым місія прызнала, што беларуская сістэма банкаўскага нагляду мае шэраг моцных бакоў. Адзначана, у прыватнасці, высокая кваліфікацыя супрацоўнікаў Дэпартамента банкаўскага нагляду Нацбанка.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Соты рэзідэнт

У свабоднай эканамічнай зоне "Мінск" у снежні будзе зарэгістраваны соты рэзідэнт. Конкурсная камісія адміністрацыі СЭЗ "Мінск" на сваім пасяджэнні ўхваліла да рэалізацыі на тэрыторыі зоны праект прыватнага унітарнага прадпрыемства "Санта-Холад" па аказанні паслуг захоўвання і складзіравання замарожаных прадуктаў. Прэзентацыя гэтага праекта прайшла ў Мінгарвыканкаме з удзелам кіраўнікоў прадпрыемства і адміністрацыі СЭЗ "Мінск".

Паводле слоў дырэктара ЧУП "Санта-Холад" Аляксандра Бурло, заснавальнікам прадпрыемства з'яўляецца беларуска-германскае прадпрыемства "Санта-Брэмар". Праект прадугледжвае мантаж халадзільных камер агульнай магутнасцю 4,5 тыс. тон, у асноўным для захоўвання рыбнай прадукцыі. Для рэалізацыі праекта плануецца прыцягнуць амаль 1,5 млн. долараў ЗША замежных інвестыцый. Прыкладна столькі ж плануецца інвесціраваць СП "Санта-Брэмар".

СЭЗ "Мінск" працягвае заставацца "палігонам станоўчых аспектаў у эканоміцы", зазначыў намеснік кіраўніка яе адміністрацыі Яўген Кастэнка.

Прыцягненне замежных інвестыцый, на яго думку, — адна з асноўных задач СЭЗ "Мінск". Замежны капітал складае 70,5 працэнта заяўленых інвестыцый. У стварэнне вытворчых прадпрыемстваў на тэрыторыі зоны інвесціраваны капітал 21 краіны, уключаючы Вялікабрытанію, ЗША, Расію, Сербію і Чарнагорыю, краіны Балтыі, Швейцарыю, Германію, Польшчу, Турцыю, Украіну, Кіпр, Чэхію, Нідэрланды, Францыю, Іран і інш. На сённяшні дзень прадпрыемствамі-рэзідэнтамі заяўлена знешніх і ўнутраных інвестыцый (з улікам статутнага фонду) на суму 111,9 млн. долараў ЗША, фактычна прыцягнута 76,6 млн. долараў. Сёлета аб'ём прыцягнутых інвестыцый склаў 35 млн. долараў, у тым ліку замежных — 18 млн. (у 2002 годзе — 23 і 15 млн. долараў адпаведна).

Разам з тым, прызнаў Я.Кастэнка, планы, устаноўленыя ўрадам па прыцягненні інвестыцый у бягучым годзе ў памеры 100 млн. долараў ЗША, не выкананы. Паводле яго слоў, інвестыцыйны працэс з'яўляецца інерцыйным, і хутка дамагчыся такога вялікага росту інвестыцый немагчыма. На 2004 год урадам пастаўлена задача павялічыць аб'ём прыцягнення інвестыцый на 17 працэнтаў да ўзроўню, дасягнутаму сёлета.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

**ДА ЗАКАНЧЭННЯ ПАДПІСКІ НА «НАРОДНУЮ ВОЛЮ» НА ПЕРШУЮ ПАЛОВУ 2004 ГОДА — 2 ДНІ.**
**Не ведаем, як Вы, шаноўныя чытачы, а мы без Вас жыць не зможам.**
**Няма магчымасці падпісацца на 6 месяцаў — падпішыцеся на квартал, на два месяцы, на месяц.**
**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Принцесса Диана была беременна на момент гибели

На момент гибели принцесса Диана была беременна. С таким заявлением выступил высокопоставленный представитель французской полиции. "Факт беременности не был упомянут в официальных документах расследования, так как не имел отношения к причинам аварии или смерти Дианы", — пояснил чиновник. Версия о беременности Дианы неоднократно высказывалась ранее Мухамедом Аль-Файедом, отцом ее друга Доди аль-Файеда. Однако приближенные принцессы категорически отрицали эти предположения.

Представители королевской семьи Великобритании отказались комментировать данное утверждение. 36-летняя принцесса Диана и 42-летний Доди аль-Файед погибли в автокатастрофе в Париже 31 августа 1997 года, когда их автомобиль врезался в колонну туннеля под мостом Альма.

## Гражданин Латвии дважды превысил смертельную дозу спиртного

Гражданин Латвии выжил после употребления количества спиртного, способного убить двух человек. Согласно анализам, содержание алкоголя в его крови было зафиксировано на уровне 7,22 промилле, в то время как уровень в 4 промилле считается смертельным. Мужчина поступил в отделение интенсивной терапии, а на следующий день уже был в состоянии давать интервью. По его словам, он так сильно напился, потому что от него ушла жена, а жена ушла, потому что он сильно напивался. Латвиец затруднился сообщить журналистам, собирается ли в будущем сократить количество выпиваемого алкоголя.

Как рассказала пресс-секретарь полиции Ева Звидре, при содержании алкоголя в крови на уровне 1,2 промилле наступает рвота, при 3 промилле человек теряет сознание, а при 4 наступает остановка дыхания. Звидре не располагает информацией, установил ли латвиец, выживший при уровне алкоголя в крови в 7,22 промилле, мировой рекорд. Однако она отметила, что это не самый лучший способ прославиться.

## Ночные визиты агентов ЦРУ испугали Каддафи

По словам высокопоставленного сотрудника американских спецслужб, именно его ведомство, а также их британские коллеги, сыграли ключевую роль в том, что Муаммар Каддафи объявил об отказе от программ по созданию оружия массового поражения. По его словам, агенты спецслужб в течение двух месяцев, с октября по декабрь, совершали тайные поездки в Ливию длительностью до двух недель каждая, и проводили поздно вечером встречи с Каддафи (они начинались после 11 вечера), на которых тот всячески демонстрировал доброжелательность и готовность к сотрудничеству. Эти переговоры были начаты по инициативе Ливии, которая еще в середине марта обратилась к британцам с просьбой посодействовать в переговорах с американскими спецслужбами.

Причина такой толерантности "лидера ливийской революции", по словам источника Reuters — его стремление внести свой вклад в войну с терроризмом и присоединиться тем самым наконец к мировому сообществу, а также беспокойство по поводу экстремизма внутри самой Ливии. "Ливийцы очень обеспокоены экстремизмом, — заявил сотрудник, — и они уже внесли некоторый вклад в борьбу с терроризмом". Он также подтвердил, что американская администрация очень оптимистично смотрит на возможное сотрудничество с Ливией в этой области.

По словам источника Reuters, окончательно Каддафи убедился в необходимости объявить о прекращении программы ОМП, когда на переговорах выяснилось, как много западные спецслужбы уже о ней знают. После этого, во время тайных инспекций американским делегациям были показаны центрифуги и части центрифуг для обогащения урана, ракеты, присланные Северной Кореей в конце 90-х, а также запасы горчичного газа 10-летней давности. Все это разрешалось фотографировать и брать образцы.

## Италия: облава на «Красные бригады»

Итальянская полиция произвела облаву в тайном центре "Красных бригад" — печально известной левацкой экстремистской группировки. Из-за опасения, что в ходе операции может произойти взрыв, полиция эвакуировала жителей целого квартала Рима.

В тайнике, найденном в подвале одного из домов, было найдено 100 кг взрывчатки, запалы и ружья. Также в ходе операции были изъяты фальшивые документы, полицейская форма, и, согласно некоторым сообщениям, оригинал заявления, в котором "Бригады" берут на себя ответственность за убийство консультанта по трудоустройству Марко Бьяджи.

Он стал жертвой экстремистов, так как участвовал в разработке законов, которые упрощают процесс увольнения работников.

"Бригады" также взяли на себя ответственность за убийство другого консультанта по трудоустройству, Массимо д'Антона.

Считается, что группировка продолжает дело "Красных бригад", которые совершили бесчисленное количество похищений людей и убийств в 70-е и 80-е годы.

### Обычные люди

В октябре были арестованы девять членов группировки. Большинство из арестованных в октябре боевиков "Бригад" имели работу и характеризовались соседями как добропорядочные граждане.

Прогресса в расследовании деятельности нового поколения террористов удалось добиться после перестрелки в поезде, произошедшей ранее в этом году.

Палм-компьютер и мобильные телефоны двух членов "Красных бригад" дали бесценную информацию о связи членов новой группировки друг с другом и ее ветеранами, а также о потенциальных жертвах.

Выяснилось, что в качестве последних группировка предпочитает не крупных промышленников или политиков, как раньше, а менее заметных людей, влияющих на политику страны.

ЛЮБОПЫТНО

## Американская парашютистка собирается прыгнуть из стратосферы

Американская парашютистка Шерил Стернс собирается поставить мировой рекорд по затяжным прыжкам с парашютом — она прыгнет с высоты 39.640 метров из стратосферы. Стернс планирует совершить прыжок в 2005 году, причем вместе с ней это собираются сделать еще два парашютиста — француз Мишель Фурнье и австралиец Родд Миллнер. Однако в отличие от коллег-конкурентов, Стернс не только хочет поставить рекорд, но и собирается доказать, что члены экипажей космических кораблей могут спастись в случае катастрофы, аналогичной аварии шаттла "Коламбия".

Как известно, шаттл развалился на высоте около 60 километров, войдя в атмосферу на скорости около 20 тысяч километров в час. До сих пор все подобные испытания проводились не выше 30 километров. Спонсором прыжка является американское космическое агентство НАСА. Парашютисты собираются прыгать в специальных скафандрах, аналогичных настоящим.

ЗАКУЛІССЕ

# Пісаў ліст Аляксандр Лукашэнка Рамана Продзі ці не пісаў?

*Карэспандэнт шведскай газеты "Barometrn—OT" Матс Андэрсан паведаміў карэспандэнту "Народнай волі" пра тое, што не так даўно ў Бруселі ў памяшканні Еўракамісіі адбылася прэс-канферэнцыя, на якой ён прысутнічаў. Адзін з супрацоўнікаў прэс-службы Еўракамісіі (яго імя Матс не запомніў, таму што канферэнцыя была "off—record" (гэта значыць, без запісу на стужку — **А.С.**) паведаміў прысутным журналістам пра ліст, які атрымаў кіраўнік Еўракамісіі **Рамана ПРОДЗІ**. Гэты ліст напісаў яму ... Аляксандр Лукашэнка.*

У лісце, сцвярджае крыніца ў Еўракамісіі, Лукашэнка звяртаецца да Рамана Продзі з незвычайнай просьбай: у тым выпадку, калі прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін будзе і надалей тармазіць працэс інтэграцыі Беларусі з Расіяй, разгледзець пытанне аб далучэнні Беларусі да Еўрасаюза. На думку прадстаўніка прэс-службы ўплывовай еўрапейскай установы, ліст Лукашэнкі ніхто не ўспрымае ў Еўракамісіі ўсур'ёз таму, што *"доўгія гады перад гэтым,* — паведамляе шведскі журналіст, — *Лукашэнка ніякім чынам не дэманструе — менавіта на справе, а не на словах — свайго жадання сапраўды далучыць Беларусь да Еўрасаюза".*

Цікава, але на прэзідэнцкім інтэрнэт-сайце, які размяшчае на сваіх старонках нават віншаванні Лукашэнкі лідэрам афрыканскіх краін, няма ніводнага паведамлення, дзе ўзгадвалася б нават назва Еўракамісіі. Я праспрабаваў атрымаць афіцыйны адказ, як кажуць, з першых вуснаў. Спачатку датэлефанаваўся да кіраўніка прэзідэнцкай прэс-службы **Паўла ЛЁГКАГА**. Павел адказаўся даваць каментарый нашай газеце і ветліва параіў звярнуцца да прэзідэнцкай прэс-сакратаркі **Наталлі ПЯТКЕВІЧ**. Наталля Уладзіміраўна паведаміла карэспандэнту "Народнай волі", што нічога не ведае пра гэты ліст і параіла звярнуцца за каментарыем у Міністэрства замежных спраў. Прэс-сакратар МЗС **Андрэй САВІНЫХ** таксама аказаўся не ў курсе і сказаў, што нічога не чуў пра гэты ліст...

Можа, канешне, ліст Лукашэнкі да Рамана Продзі сапраўды фікцыя і яго наогул не існуе ў прыродзе. Але ж не верыцца і ў тое, што незацікаўлены ў хлусні шведскі журналіст, альбо супрацоўнік прэс-службы Еўракамісіі будуць нешта падобнае прыдумляць альбо нахабна хлусіць. Навошта гэта ім?

Хутчэй за ўсё, ліст да Рамана Продзі быў, і ў ім у такой ці крыху іншай форме гаварылася пра "пытанне аб далучэнні Беларусі да Еўрасаюза". Можа гэта быў часовы душэўны парыў Аляксандра Рыгоравіча, звязаны з чарговымі выказваннямі Уладзіміра Пуціна наконт "мух і катлет"?

Напрошваюцца і іншыя версіі. Ды што тут развconfigurations! 

Рамана Продзі і Уладзімір Пуцін.

**Алесь СІЛІЧ.**

ПІСЬМЕННІЦКАЕ СЛОВА

*Вольга ІПАТАВА*

# Творым яе самі...

Сённяшняя сітуацыя з пошукам дзяржаўнай ідэалогіі надта нагадвае мне не такія далёкія часы, калі новы генсек КПСС Міхаіл Гарбачоў стаў актыўна прапагандаваць перабудову. У чым яна заключалася, ніхто на колішнім БТ, дзе я тады працавала ў літаратурнай рэдакцыі, не ведаў. Але Віталь Дзмітрыевіч Чанін, намеснік старшыні Белдзяржтэлерадыё, добрасумленна спрабаваў нам гэта тлумачыць на ўсялякіх "лятучках". Мы зразумелі гэта ў рэшце рэшт кожны па-свойму, і тады ў нашых літдрамаўскіх праграмах з'явіліся "Ліра" і "Спадчына", загаварылі нацыянальна арыентаваныя выдатныя гісторыкі, такія як Г.Штыхаў, П.Лойка, С.Тарасаў, Г.Сагановіч, а пра фатальныя наступствы чарнобыльскай катастрофы абвясціў напачатку менавіта праз тэлебачанне Алесь Адамовіч...

Але тады сітуацыя была іншая. Магутны ўздым дэмакратычнай і нацыянальнай хвалі спарадзіў страх у колішніх уладароў дзяржаўнай ідэалогіі, і гэта давала магчымасць "прарыву" раней строга забароненых тэм і імёнаў. А галоўнае — праўды аб тым, што адбывалася з усімі намі на працягу многіх савецкіх дзесяцігоддзяў і — у гістарычным ракурсе — стагоддзяў.

Калі параўноўваць тое, колішняе забыццё ўсяго свайго, беларускага ды амаль поўнасцю здзейсненую "перакадзіроўку" нацыянальнай свядомасці, то можна гаварыць аб пэўным прагрэсе. Сёння ў любой школе на пытанне "Хто такая Еўфрасіння Полацкая?" уздымуць рукі амаль усе вучні, і ажно не верыцца, што некалі ішоў такі люты пераслед за маю маленькую аповесць "Прадыслава". Праводзяцца рыцарскія турніры, маладыя беларусы хочуць адкрываць старонкі тысячагоддзяў, што зліпліся ад крыві і пылу і былі амаль цалкам занядбаныя. Але хто сёння здзяйсняе гэтыя "прарывы"? Хто імкнецца абудзіць у беларусаў пачуццё гонару за сваю тысячагадовую гісторыю і даць ім магутны імпульс назапашанай продкамі энергіі і волю да далейшага шляху ў будучае? Імкненне захавацца, не знікнуць на пакручастых шляхах Часу? Жаданне, нараджаючы дзяцей, перадаваць ім традыцыі продкаў?

Рэсурсы для гэтага павінна знаходзіць дзяржава, збіраючы ў адно людскія памкненні і высілкі сваёй нацыянальнай інтэлігенцыі, якая працуе ў творчых лабараторыях і інстытутах, за рабочым сталом ці ў майстэрні і павінна мець магчымасць данесці да народа здзейсненае ёю, знойдзенае ў архівах і скандэнсаванае ў кнігах, на мастацкіх палотнах ці ў музыцы. І тут не можа мець значэння, якой палітычнай арыентацыі прытрымліваецца творца. Галоўнае — ягоны талент, ягоны энергетычны патэнцыял. Усявышні не дарэмна дае ў чалавечую душу ці то іскрынку, якая саграе сотні людзей, ці то полымя, здольнае абудзіць мільёны.

Ці арыентуюцца нашыя сённяшнія ўлады на гэтыя, праверaныя ўсёй чалавечай цывілізацыяй каноны? Мушу сказаць з вялікай скрухай, што — не, не арыентуюцца. Якраз наадварот — яны хацелі б выкрасліць творчую інтэлігенцыю з "ужытку нацыі" і ўзяць на сябе яе спрадвечныя функцыі. Упэўніваешся ў гэтым, калі чытаеш выдадзеныя пад сённяшнім дзяржаўным сцягам, а значыць, "узаконеныя ўладай" яе ідэалагічныя высновы. Маю на ўвазе выдадзеную В.Шынкаровым і Л.Вартанавай кнігу "Идеология государственности и общественного развития Республики Беларусь". Акрэсліўшы "известную часть творческой интеллигенции" як безыніцыятыўную, што чакае, пакуль ёй паднясуць на сподачку дасканалае грамадства, аўтары пішуць: "Усё гэта не дазваляе творчым работнікам, закліканым "глаголом жечь сердца людей", дыктаваць народу краіны высокія грамадзянскія ўмовы і ідэі. У выніку гэтага дзяржаўная ўлада ў сілу абставін, што сёння склаліся, вымушаная замест іх выконваць ролю не толькі кіраўніка, але і духоўнага настаўніка".

З аднаго боку, улада гэткімі пасажамі распісваецца ў сваім бяссіллі хоць неяк зацугляць творчую інтэлігенцыю. Сапраўды — нават тыя творчыя саюзы, якія за гэтыя гады знешне прадэманстравалі калі не пакорлівасць, дык маўчанне, не адабраюць сённяшнюю палітыку гвалту і зняважлівасці ў дачыненні да інтэлектуалаў. Як бы ні дэкларавала сённяшняя ўлада клопат аб інтэлігенцыі, факты красамоўна сведчаць аб іншым: пісьменнікаў (апроч самых правераных і ідэйна спелых) не дапускаюць да тэлебачання, іх амаль не друкуюць у дзяржаўных выданнях. Не вернутыя, нягледзячы на шматгадовыя абяцанкі, два дамы, якія належаць Саюзу пісьменнікаў, грошы ад іхняй эксплуатацыі ідуць не на выданне беларускіх кніг, а вядома ў чые кішэні. Гэта ці не адзіны падобны прыклад на абшарах былой СССР... (Цікава, што былая наша паліклініка стала цяпер інтэрнэт-клубам, ды ўсё роўна чамусьці ля будынка, нібыта ля нейкага ваеннага аб'екта, дзень і ноч сядзяць міліцыянеры). Ад Саюза мастакоў вось-вось пагрозліва запатрабуюць плаціць за творчыя майстэрні, прычым плануецца браць за кожны метр болей, чым плацяць вытворцы гарэлкі, і новы год абяцае ператварыцца для мастакоў у кашмар... Ледзь ліпіць Канфедэрацыя творчых суполак. На радыё і па тэлебачанні бясконца гучыць расійская папса, нацыянальныя кампазітары, як і нацыянальная мова, у большасці дэманстратыўна ігнаруюцца... Чаму ж дзівіцца, калі тыя, хто выскоквае з "верноподданическими" экзерсісамі, хто расказвае аб шчаслівым жыцці і бясконцых поспехах на ніве культуры, якой даюць сродкаў у колькі разоў меней, чым ваеннаму ведамству, выклікае адмоўную рэакцыю грамадства. Ну як не засмяяцца, напрыклад, двухрадкоўю, складзенаму нашым вядомым паэтам:

*Лижет ухо власти, как щенок,*

*Дважды православный...*

(Далей кожны можа падставіць любое выбранае ім прозвішча, якое паставіцца ў рыфму). Многія такія вось радкі цыркулююць ў асяроддзі інтэлігенцыі, як і шматлікія эпіграмы на холдынг, ягоных стваральнікаў і выканаўцаў. Расказваюць, што адзін з іх ледзь не пакляўся жыццё сваё патраціць на тое, каб даведацца, хто напісаў на яго чатыры радкі эпіграмы, якая джаліць, як можа джаліць толькі таленавітае слова...

Вяртаючыся да згаданай кнігі пра сучасную дзяржаўную ідэалогію, не перастаеш дзівіцца таму, што ў нашай краіне зноў і зноў наступаюць на тыя ж самыя граблі. Яшчэ Ленін назваў расійскую інтэлігенцыю самі ведаеце чым. І чым гэта ўсё скончылася, усе таксама добра ведаюць. Праз дзесяцігоддзі, нягледзячы ні на што, вярнуліся ў сучаснасць імёны тых, каго высылалі на параходзе ў замежжа, гнаілі ў Сібіры... А нацыя, што панесла неверагодныя духоўныя страты, калі Дзям'янам Бедным хацелі замяніць Ясеніна, а Ажаевым — Івана Буніна, цяпер не можа адмаліць злачынствы, здзейсненыя карнымі органамі і жвавымі камсамольцамі-хунвэйбінамі, калі знішчаліся храмы і ў "спецхранах" маўчалі кнігі...

Цяпер усе кнігі не загоніш у спецсховы. Ды, нягледзячы на Інтэрнет і сучасныя сродкі сувязі, той-сёй яшчэ спрабуе адчысціць іржавыя петлі былой "жалезнай заслоны", паставіць усіх у адзін строй, прэтэндуючы на ролю духоўных настаўнікаў Беларусі. І ўзнікае пытанне — а хто ж заменіць у нашым грамадстве пісьменнікаў і мастакоў, дызайнераў і кампазітараў, артыстаў і рэжысёраў? Ці не тыя, хто пазаканчваў партшколы і сельгасінстытуты, а пасля і забыўся на неабходнасць хаця час ад часу зазіраць у кнігі? Хадзіць на выставы? У тэатры? Ці шмат вы бачылі на гэтых так званых мерапрыемствах вышэйшых чыноўнікаў дзяржавы (пра больш дробных я ўвогуле не кажу). Які духоўны багаж за імі?!

А інтэлігенцыя працуе. Зноў жа — нягледзячы на ўсе цяжкасці і адсутнасць падтрымкі з боку тых, хто ўзяў на сябе ролю правадыроў б е л а р у с к а г а народа, але не хоча ведаць нічога з беларускага, нават мову карэннай нацыі.

Бяру найбольш цікавыя кнігі гісторыкаў. Амаль усе яны выдадзены не дзяржаўнымі выдавецтвамі. Да прыкладу, А.Краўцэвіч у другім выданні кнігі "Стварэнне Вялікага княства Літоўскага", якое ён выдаў дзякуючы прыватным спонсарам, піша: "Першае выданне гэтай працы ў чэрвені 1998 г. адбылося хоць пад тытулам дзяржаўнага выдавецтва "Беларуская навука", але прыватным чынам з нагоды фінансавых цяжкасцяў гэтага выдавецтва (Дзяржкамдрук Беларусі адмовіў у фінансаванні кнігі). Наклад склаў каля 300 асобнікаў, а не 2 тыс., як пададзена выдавецтвам". На прыватныя сродкі выдадзеная кніга П.Урбана "Старажытныя ліцьвіны", Н.Стужынскай "Беларусь мяцежная", "Язэп Лёсік. Збор твораў" і многія іншыя, надта патрэбныя для адраджэння беларускага этнасу творы, у тым ліку і пісьменніцкія. Гэта альтэрнатыва сённяшняй, надта русіфікатарскай і неабальшавіцкай нашай "ідэалогіі", але ж даецца яна вялікімі намаганнямі энтузіястаў, і таму наклады невялікія, яны даступныя толькі малой часткі нашага грамадства. Хочацца верыць, што з цягам часу альтэрнатыўныя выданні ўмацуюць свае пазіцыі, як зрабіла гэта газета "Наша слова" з яе пасапраўднаму геравічным галоўным рэдактарам пісьменнікам Станіславам Суднікам, як робіць гэта газета "Новы час" на чале з Аленай Анісім і пры чынным удзеле пісьменніка Кастуся Тарасава (абодва выданні выдаюцца клопатам ГА "Таварыства беларускай мовы" на недзяржаўныя грошы). Набірае моц часопіс "Дзеяслоў", які ствараюць таксама пісьменнікі, і ўзровень яго робіцца недасягальным для старэйшага ў Беларусі часопіса "Полымя", пра які нядаўна так пераканаўча пісала Валянціна Коўтун, параўноўваючы яго з галавешкамі, якія не саграюць, не гараць, а чадзяць...

Балюча ўсім нам, хто некалі прыходзіў у "Полымя" з заміраннем сэрца да майстроў прозы і паэзіі, несучы ім першыя сціплыя творы. І наклад, і ўзровень гэтага выдання ніжэе месяц за месяцам... А сталася так таму, што былыя нашы выданні сталі аб'ектам намаганняў улады ўкласці ў пракрустава ложа ўжо нават не канфармізму, а швейкаўскай (па Я.Гашэку) адданасці ўсю пісьменніцкую інтэлігенцыю. Стварэнне холдынгу было разлічана беспамылкова: альбо пісьменнікі, якім няма дзе друкавацца, усё роўна прыбягуць (прыпаўзуць) у холдынг і будуць пісаць так, "як трэба". Альбо тая частка грамадства, якая прывыкла чытаць беларускія выданні, непазбежна адвернецца ад стэрылізаванай, прасякнутай (не, не скажу — "халуйствам", бо нават вымавіць такое ўжо робіцца небяспечным) прадукцыі. А гэта значыць, што выданні холдынгу ў рэшце рэшт страцяць свае наклады і знікнуць (як ужо знік, паводле звестак, з падпісных каталогаў часопіс "Крыніца". Але ці можна радавацца таму, што знікаюць менавіта беларускія выданні, якія да таго ж маюць доўгую гісторыю і добра вядомыя ў краіне ?! Няўжо не разумелі, не адчувалі такога вельмі простага прагнозу тыя, хто прыйшоў у гэтыя часопісы і "ЛіМ" апраўдваць гвалт улады? Канешне, ведалі, але ж так хочацца стаць "класікам" не дзякуючы таленту, а пры дапамозе тых "ідэолагаў", што сёння выкарыстаюць, а заўтра выплюнуць гэткіх творцаў, бо яны паталагічна ненавідзяць усё беларускае!

Але, на шчасце, сярод пісьменнікаў такіх "творцаў" усё-такі мала. Пераважная большасць спавядае дэмакратычныя погляды і не хоча знішчэння сваёй мовы на абшарах так званай "агульнай дзяржавы". Менавіта таму, што належны да гэтай большасці пісьменнік змагаецца і за нацыянальную, і за дэмакратычную ідэю (а ў нас ёсць вельмі актыўныя дэмакраты, якія вітаюць АДНУ НА ЎСІХ МОВУ), яму і жывецца сёння надзвычай цяжка. Ды ён не скардзіцца. Шукае магчымасці ўсё ж сказаць пра тое, што выпакутавана душою. Ствараюцца і мастацкія палотны, і песні, і нацыянальныя музычныя калектывы, дзе не знешне, этнаграфічна, а душэўна — аддана працуюць на беларускую нацыянальную ідэю. Нядаўна была сведкаю таго, як сустракалі на калінінградскай зямлі ансамбль старажытнай музыкі "Стары Ольса". І гэтыя хлопцы і дзяўчаты, як і іншыя іх равеснікі, — тыя парасткі новай, дзейснай Беларусі, якая зусім не чакае, якое грамадства ёй паднясуць на "сподачку з блакітнай аздобаю". Яна спрабуе тварыць яго сама. Ёй не трэба прыдумляць розныя гібрыды, як гэта робіцца сёння нашымі дзяржаўнымі мудрацамі: усе контуры дасканалай дэмакратычнай краіны абазначаны ва Устаўных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ ў сакавіку 1918 года. Менавіта па шляху аднаўлення незалежнасці, аб'яўленай ў тыя гады, пайшлі Літва і Украіна.

Наша Беларусь — у нас саміх, нашых душах, у гатоўнасці кожнаму не на словах, а на справе працаваць, як хто можа і ўмее, на яе ўмацаванне і незалежнасць.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# І яны пасябравалі...

Здараюцца ў жыцці кожнага сітуацыі, якія лепей за ўсё высвечваюць яго маральнае "крэда", узровень інтэлігентнасці, духоўнасці. Таму тое, што мне давялося выпадкам пачуць ад настаўніцы-пенсіянеркі Любові Ісакаўны Крэмер, нагадала адну біблейскую ісціну: "Гонар чалавеку ўхіляцца ад сваркі, а хто любіць свару — неразумны".

У яе жыцці аднойчы склалася так: недзе ў канцы 80-х Любоў Ісакаўна за поўны кошт набыла пуцёўку ў адзін з санаторыяў Адэсы. Купіла білет на самалёт — і праз дзве гадзіны была там.

Акрамя яе, у пакой падсялілі яшчэ дзвюх жанчын яе ўзросту — украінку Ніну з Львова і расейку Шуру — з Валагодчыны. Яшчэ не паспелі яны як след пазнаёміцца, як украінка, акінуўшы пільным позіркам суседак, заявіла: маўляў, як добра, што ім "яўрэйку не падсялілі" (напэўна, мела на ўвазе маладую жанчыну, якая заходзіла ў рэгістратуру, калі Ніна стаяла ля акенца). Любоў Ісакаўна — бландзіністая, падобная хутчэй на беларуску, не ўстрымалася ад пытання: чым жа яўрэі так не дагадзілі субяседніцы-суседцы па палаце? Тая затараторыла, нібы базарная баба: "Вы што, не знаетэ, яковы яны хітры, ізворатлівы, вэздэ шукают лігкого хліба?"

Любоў Ісакаўна была жанчына стрыманая, выхаваная, умела не паддавацца эмоцыям — гэтаму яе навучылі бацькі — карэнныя мінчукі, інтэлігентныя людзі. Ды і вучоба ў інстытуце замежных моў стала школай выхавання павагі да людзей усіх нацыянальнасцяў. Натуральна, яна паспрабавала растлумачыць Ніне, што яўрэі не больш ганяюцца за лёгкім хлебам, чым іншыя: умеюць працаваць і ваяваць, што сотні тысяч іх загінула на франтах Айчыннай вайны, а мільёны — у гітлераўскіх лагерах смерці. Субяседніца змоўкла і болей на гэты конт не выказвалася, тым болей што пра Любіну нацыянальнасць не ведала.

Настаў час развітання з Адэсай. У Ніны, калі хапілася купляць білет, нехапала грошай на яго. Любоў Ісакаўна, забыўшы крыўдныя рэплікі, сказала проста: "Вазьмі ў мяне. Зможаш — вернеш, не — нічога страшнага". Ніна стала дзякаваць, не ўтрымаўшыся, праўда, ад рэплікі: маўляў, яўрэйка ніколі б у тым выпадку не раскашэлілася... Любоў Ісакаўна не стала спрачацца...

Праз тыдзень пасля вяртання дадому яна атрымала з Львова перавод з прыпіскай-удзячнасцю. А яшчэ праз тыдзень — і важкую пасылку... Любоў Ісакаўна расчулілася: яна і раней адчувала, што Ніна — зусім нядрэнны чалавек, толькі хтосьці ў дзяцінстве сыпануў у яе галаву смецце злога антысемітызму. Яна выслала ў Львоў сваю пасылку Ніне, а Ніна зноў сваю ў адказ. Любоў Ісакаўна рашыла адкрыцца ўкраінскай знаёмай, хто яна такая. І зноў — ліст ад Ніны — з просьбай прабачыць ёй былую дзёрзкасць, са шчырымі словамі сяброўства і прыязнасці. Потым — з запрашэннем прыехаць у госці разам з мужам.

Яны пасябравалі. Так і павінна быць між людзьмі — лад і спагада, разуменне і павага. А якой ты нацыянальнасці — не мае значэння...

**Мікола КУТНЯВІЦКІ.**

РЭХА

# Чад ад галавешак не да душы і чытачу

Надрукаванае ў "Народнай волі" інтэрв'ю з вядомай беларускай пісьменніцай Валянцінай Коўтун "Калі замест полымя чад ад галавешак...", я прачытаў, як кажуць, на адным дыханні — так уразіла ўсё, аб чым там ішла размова. Разарваць кантракт з рэдакцыяй выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" і адмовіцца ад пасады загадчыка аддзела крытыкі ў часопісе "Полымя", дзе В.Коўтун адпрацавала блізу 25 гадоў, крок, безумоўна, прынцыповы, абумоўлены нецярпімасцю да той нездаровай атмасферы, што склалася, як даказальна сцвярджае пісьменніца, пасля стварэння сумнавядомага холдынга. Не многія з сённяшніх нашых пісьменнікаў рашыліся б на такі крок у знак пратэсту...

Цалкам падзяляю думку Валянціны Міхайлаўны, што ў выніку выцяснення з некалі папулярных літаратурных часопісаў такіх выдатных творцаў, як Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Віктар Казько, Генадзь Бураўкін і іншых, якія даўно вядомыя і актыўныя абаронцы нацыянальнай культуры і мовы, чые творы "заражалі" чытача павагай да ўсяго беларускага, прэстыж гэтых часопісаў рэзка знізіўся. Мяркую па адносінах да іх маіх землякоў. Цэнтральная гарадская бібліятэка (у Слуцку ёсць яшчэ два яе філіялы на ўскраіне), выпісвае для чытальнай залы часопісы "Полымя", "Маладосць", "Неман", "Крыніца". Кожны чарговы нумар выстаўляюць навідавоку на спецыяльным стэлажы — тварам да чытачоў, якіх, асабліва школьнікаў і студэнтаў-завочнікаў, тут заўсёды поўная зала. Калі ж я пацікавіўся ў бібліятэкараў, колькі ж чалавек бралі ў рукі тыя часопісы, адказ быў ашаламляльны: "Ды два пенсіянеры. А так — ніхто".

Некалі чытабельны часопіс "Крыніца", дзе друкаваліся цікавыя інтэрв'ю з пісьменнікамі старэйшага і новага пакаленняў, іх літаратурныя творы, стаў сёння напалову рускамоўным, змяшчае шмат перакладаў, публікацый рускамоўных аўтараў, якія нярэдка папулярызуюць і скажаюць або замоўчваюць нашу беларускую гісторыю.

Страціў прыцягальную сілу і часопіс "Полымя", які я раней ахвотна браў, каб сустрэцца з прозай Генрыха Далідовіча, Алеся Жука, Вольгі Іпатавай, Віктара Казько і іншымі цікавымі рэчамі. Цяпер гэтых выдатных майстроў пяра на старонках часопіса не бачна — новая рэдакцыя іх творы ігнаруе, як у сумнавядомую эпоху "развітога сацыялізму", калі пільныя цэнзары шматавалі мастацкія творы, як ім загадаюць зверху. Аб гэтым, дарэчы, пераканаўча напісаў у сваёй апошняй кнізе "Доўгая дарога да дому" Васіль Быкаў.

Сёння масавага чытача адлучаюць фактычна не толькі ад лепшых беларускіх літаратараў, а і ад роднага слова наогул. Па рэспубліканскіх тэлеканалах навіны ўжо ўвесь дзень падаюцца толькі на мове суседняй дзяржавы, чыноўнікі міністэрстваў адукацыі і культуры ў гутарцы з карэспандэнтамі размаўляюць амаль выключна па-руску. Новы тэлеканал "Лад", на які многія ўскладалі нейкія спадзяванні, што там хоць палавіна перадач будзе весціся па-беларуску. Але да правінцыі, на жаль, не даходзіць, бо, як заявіў мне дырэктар Слуцкага ПЦ "Гарант" Юрый Алюшын, узровень сігналу тэлестудыі занадта слабы. Хаця, кажуць, і глядзець у "Ладзе" асабліва няма чаго. Як вобразна сказала ў інтэрв'ю газеце Валянціна Коўтун, там, дзе замест полымя застаецца толькі чад ад галавешак, няма чым дыхаць. Чытачу — гэ-таксама.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**пенсіянер.**

*г.Слуцк.*



*Рискованная рыбалка на неокрепшем льду озера. Минская область, 20 декабря 2003 г.*

**Фото ByMedia.net**

СПОВЕДЗЬ

# Нявеста без вэлюму

Перад самым ад'ездам у загс дачка раптам закапрызнічала:

— Мама, ты паглядзі, як недарэчна сядзіць на мне вясельная сукенка! У таліі трэба трошкі падшыць.

— Калі шыць? — пытаю. — Жаніх вось-вось пад'едзе. Не выдумляй, чаго не трэба.

Насця, адзінае дзіця ў сям'і, спешчанае і капрызнае, ніколі ні ў чым не ведаючы адказу, раптам залілася слязамі. Прыйшлося супакойваць, угаворваць, каб хоць не мець ганьбы перад Віцем — жаніхом — ды перад сватамі.

У загс мы не спазніліся, і калі заходзілі ў калідор, з залы рэгістрацыі шлюбаў выйшлі маладажоны, якія толькі што распісаліся. Нявеста трымала ў руках сціплы букецік кветак. Была прыбрана ў беленькую сукенку, але без вэлюма. І жаніх таксама быў апрануты без прэтэнзій на моду. З імі былі двое сведкаў — дзяўчына і хлопец. І ўсё, больш нікога. Не тое, што ў нас — цэлы натоўп шыкоўна апранутых гасцей.

Мне кінулася ў вочы, што супрацоўніца загса адносілася да гэтай маладой пары з асаблівай цеплынёй. Відаць, яны былі знаёмыя.

— Пішы мне, Танечка. Як уладкуецеся там, абавязкова напішы, — папрасіла на развітанне.

— Добра, — прыязна ўсміхнулася нявеста, і на яе твары з'явіліся дзве прыгожыя ямачкі.

І яшчэ мне кінулася ў вочы, што нявеста даволі моцна кульгае на правую нагу...

Разважаць не было калі, бо ў залу для рэгістрацыі шлюбаў зайшла дачка з будучым зяцем, і ўсе мы дружна хлынулі за імі.

За вясельнай мітуснёй, за Насцінымі капрызамі, якімі яна за гэтыя дні мяне проста знервавала, я неяк забылася пра тую сустрэчу ў загсе. А потым, калі ўсё скончылася, калі маладыя пайшлі жыць у сваю трохпакаёвую кватэру, якую мы з мужам падарылі ім на вяселле, я ўсё часцей і часцей пачала ўспамінаць пра нявесту без вэлюма. Нейкая сіла не давала спакою, цягнула ў тыя ўспаміны, як цягне забойцу на месца злачынства. Пачала прыгадваць, аналізаваць і з жахам зразумела, што нявеста без вэлюма — мая старэйшая дачка, якую я некалі кінула на волю лёсу дзеля ўласнай выгады, дзеля свайго, як тады здавалася, шчасця. Было так шмат супадзенняў, што ўсе сумненні адпалі: гэта яна, мая маленькая Танечка.

...Я нарадзіла сваю дзяўчынку ў васемнаццаць гадоў. Вельмі кахала аднаго хлопца з нашай вёскі, не сумнявалася, што пажэнімся. Зацяжарыла. А ён пасля гэтага не захацеў мяне ведаць. Не дапамаглі ні слёзы, ні папрокі. А тут раптам памёр бацька, і засталася я круглай сіратой, бо мама памерла даўно.

Нарадзіла дзіця ў горадзе. Туды мяне забрала цётка — бацькава незамужняя сястра. Яна і Танечку дапамагала гадаваць. Жылі мы някепска, толькі мяне засмучала, што ў дачушкі ад нараджэння адна ножка карацейшая за другую.

Малой ужо было пяць годзікаў, калі я на дні нараджэння ў сяброўкі пазнаёмілася са сваім Мікалаем Сідаравічам. Быў ён старэйшы за мяне, салідны, пры грашах і немалой пасадзе. Сям'і не меў. Нас пасваталі. Але калі Мікалай Сідаравіч даведаўся, што ў мяне ёсць дачка, што яна кульгавая, сказаў катэгарычна:

— Ты мне падабаешся, і я гатовы з табой ажаніцца, толькі дзіця мне тваё непатрэбна. Тым больш калека. У мяне будуць свае дзеці, а чужых не хачу.

На ўласнай машыне ён прывёз мяне ў сваю вялікую шыкоўную кватэру і зноў сказаў:

— Будзеш гаспадыняй, але дзіцяці твайму, прабач, тут месца няма.

Цётка мая таксама замуж сабралася, так захапілася сваім старым лысым жаніхом, што ёй было не да маіх клопатаў.

Тады я вырашыла пазбавіцца ад Танечкі. Прыгожа яе апранула і, падвёўшы да дзвярэй дзіцячага дома, сказала:

— Ідзі туды і скажы цёцям: я хачу ў вас жыць.

— А ты, мама? Я з табой хачу... — занепакоілася дзяўчынка.

— Не бойся. Гэта будзе такая гульня. Я потым забяру цябе. Можа, праз гадзінку ці праз дзве.

Я нават дзверы дапамагла ёй адчыніць, і, калі дачушка пераступіла парог, зачыніла іх назаўсёды.

Праз некаторы час мы з Мікалаем Сідаравічам ажаніліся, і я сапраўды спачатку жыла добра. Іншы раз успаміналa Танечку, нават плакала паціху, але, калі нарадзілася Насця, зусім пра яе забылася.

Міналі гады. Толькі пад старасць зразумела, што муж трымае мяне за служанку. Ён ніколі не лічыўся з маёй думкай, іншы раз пры знакамітых гасцях мог высмеяць так, што ў мяне слёзы наварочваліся на вочы, а госці няёмка глядзелі ў стол. Цярпела. А як жа: я нідзе не працавала, сядзела як у Бога за пазухай, дачка наша была забяспечана ўсім, пра што іншыя дзяўчаты нават марыць не маглі. Мы кожны год адпачывалі на моры, бывалі за мяжой. А пра тое, як жыве мая Танечка, я нават ні разу не задумалася.

Праз год Насця з Віцем загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Насця ўжо была цяжарная, на сёмым месяцы, і я ледзь не ашалела ад гора ад такой неверагоднай страты.

А яшчэ праз паўтара года Мікалай Сідаравіч сабраў манаткі і пераехаў жыць да сваёй супрацоўніцы, якая была прыгожая і па ўзросце гадзілася яму ў дочкі.

— Мне надакучылі твае слёзы, твой пануры выгляд і бясконцыя скаргі на лёс. Нянькай быць табе не збіраюся. Пакідаю кватэру, мэблю. Забіраю толькі машыну і сваё адзенне. Жыві як ведаеш.

Калі за ім зачыніліся дзверы, я страціла прытомнасць, і каб неўзабаве не зайшла суседка, то, можа, і памерла б. З цяжкім сардэчным прыступам мяне даставілі ў бальніцу.

Калі падлячылася, зайшла ў загс, дзе некалі распісваліся мае дочкі, знайшла тую супрацоўніцу, якая гутарыла з Таняй.

Перш чым пачаць размову, я доўга плакала, а яна, не ведаючы, што са мной, супакойвала, накапала ў маленечкі кубачак валяр'янкі.

Маладая жанчына слухала мяне не перабіваючы. А калі пачала гаварыць сама, голас быў далёка не лагодны:

— Так, вы не памыліліся, гэта ваша дачка Таня Асіпчук, дзяўчынка, якой вы некалі так подла здрадзілі. Як бачыце, яна не прапала. Была ў дзіцячым доме, потым — школе-інтэрнаце. Добрыя людзі дапамаглі атрымаць ёй вышэйшую адукацыю. Стала эканамістам. У інстытуце пазнаёмілася з Сяргеем — сваім будучым мужам. Як закончыла вучобу, ажаніліся і паехалі жыць у Маскву. Сяргей таксама сірата, але ў Маскве ў яго жыве бабуля. Яна запісала на яго кватэру. Жылі ўтраіх, а год таму ў маладых нарадзіліся цудоўныя дзяўчынкі-блізняткі, — голас у жанчыны пацяплеў і яна ўсміхнулася, відаць, прыгадаўшы маіх унучак. — Мы з Таняй сябруем, і яна папрасіла мяне быць хроснай для адной з дзяўчынак. Вось так.

— У вас ёсць адрас, тэлефон? Дайце мне, калі ласка, — папрасіла я.

— Ёсць і адрас, і тэлефон, але я вам не дам нічога.

— Чаму? Яна ж мне дачка!

— Успомнілі... Таня ўсё жыццё на вас крыўдзіцца і сказала, што не даруе ніколі. Яна ўжо была разумная дзяўчынка, калі вы яе кінулі. Помніла ваша прозвішча, імя і імя па бацьку. Як падрасла, папрасіла выхавальніцу, каб дапамагла вас адшукаць. Яна хацела адпомсціць... Але выхавальніца сказала, што вы памерлі, і яна паверыла. Больш не шукала. Але яна вас ненавідзіць, разумееце? Так што змірыцеся. Ніхто вам не вінаваты...

— Змірыцца я не магла. З дня ў дзень хадзіла да той жанчыны, выпрошвала адрас, тэлефон. Нумару тэлефона яна не дала, але адрас на паперцы напісала.

Я паслала пісьмо і кожны дзень з заміраннем сэрца чакала паштальёна. Адказ прыйшоў толькі праз месяц. У тым пісьме былі страшныя словы: "Я вас ненавіджу. Можа, гэта грэшна і жорстка, але я радуюся вашым пакутам. Па-другому не магу. Радуюся, калі думаю, што вы праведзяце астатак дзён у казённым доме, як я правяла сваё дзяцінства і юнацтва. Вы гэта заслужылі. Больш не пішыце".

Цяпер я змірылася з усім. У адзіноце чакаю смерці. Калі ж яна замарудзіць, то завязуць у дом састарэлых.

...А начамі мне часта сняцца дзве дзяўчынкі-блізняткі, мае ўнучкі, якіх я не бачыла і не ўбачу ніколі...

**З пашанай,**

**Марыя Міхайлаўна.**

**Падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**



**23**
снежня

**АЎТОРАК**
Усх. 8.28 Зах. 15.50
Даўж. дня 7.22
Маладзік у 11.44



СПОРТ

## Дванаццаць спартыўных «Віцязяў» Беларусі

Дванаццацю тэлевізарамі "Фаварыт" узнагародзіла віцебскае унітарнае прадпрыемства "Віцязь" лепшых спартсменаў Беларусі 2003 года.

Прызоў удастоены **Наталля ЦЫЛІНСКАЯ** (чэмпіёнка свету па веласпорце), **Алена ПОПЧАНКА** (чэмпіёнка свету па плаванні), **Андрэй МІХНЕВІЧ** (чэмпіён свету ў штурханні ядра), **Ірына ЯТЧАНКА** (чэмпіёнка свету ў кіданні дыска), **Іван ЦІХАН** (чэмпіён свету ў кіданні молата), **Аляксей ГРЫШЫН** (сярэбраны прызёр ЧМ па фрыстайле), **Магамед АРЫПГАДЖЫЕЎ** (сярэбраны прызёр ЧМ па боксе), **Мурад ГАЙДАРАЎ** (сярэбраны прызёр ЧМ па вольнай барацьбе), **Віталь ЗАХАРАЎ** (бронзавы прызёр ЧМ па фехтаванні), **маладзёжная зборная Беларусі па футболе** (за выхад у фінальную частку чэмпіянату Еўропы), **мужчынская зборная Беларусі па тэнісе** (за выхад у Сусветную групу Кубка Дэвіса) і **мужчынская зборная Беларусі па настольным тэнісе** (чэмпіён Еўропы).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Біятлон: не бягуць і не страляюць...

На Кубку свету, які праходзіў у славацкім Осрблі, у гонцы праследавання беларуская біятланістка Алена Зубрылава заняла 9-е месца. Астатнія беларускія спартсменкі занялі наступныя месцы: Вольга Назарава — 13-е, Кацярына Іванова — 26-е, Ксенія Зікунова — 38-е месцы.

У жаночым спрынце на 7,5 кіламетра лепшай з беларусак была Кацярына Іванова, якая заняла сёмы радок у выніковай табліцы. Астатнія беларускія біятланісткі занялі адпаведна: Ксенія Зікунова — 19-е месца, Вольга Назарава — 26-е, Алена Зубрылава — 35-е, Наталля Агурцова — 68-е, Людміла Ананька — 70-е месцы.

У мужчын біятлонныя справы ў Славакіі складваліся не лепш. У гонцы праследавання на 12,5 кіламетра лепшым з мужчынскай нацыянальнай зборнай быў Уладзімір Драчоў, які заняў 16-е месца. Далей — горш... Аляксей Айдараў — 19-е месца, Аляксандр Сыман — 33-е, Рустам Валіулін — 40-е, Сяргей Новікаў — 45-е, Яўген Сцяпанаў — 58-е месцы.

У мужчынскім спрынце на 10 кіламетраў Аляксей Айдараў стаў дзевятым. Астатнія нашы суайчыннікі занялі адпаведна: Уладзімір Драчоў — 11-е месца, Сяргей Новікаў — 33-е, Аляксандр Сыман 45-е, Рустам Валіулін — 51-е, Яўген Сцяпанаў — 58-е, Алег Рыжанкоў — 64-е месцы.

## Хакей з шайбай: з Польшчы — са шчытом

Нацыянальная зборная Беларусі паспяхова выступіла на этапе "Еўравыкліку" ў Польшчы, заняўшы першае месца. У заключных сустрэчах беларусы перамаглі нарвежцаў з лікам 5:3 (шайбы ў нашых закінулі Сяргей Задзялёнаў, Зміцер Дудзік, Сяргей Вітэр, Андрэй Скабелка і Аляксей Круцікаў) і гаспадароў — 4:3 (шайбы ў беларусаў закінулі Андрэй Расолька, Зміцер Дудзік, Канстанцін Захараў і Сяргей Вітэр).

* * *

На маладзёжным чэмпіянаце свету, у Дывізіёне 1 у сваёй апошняй сустрэчы беларусы выйгралі ў каманды Японіі — 7:5. Нагадаем, што нашы суайчыннікі датэрмінова вырашылі задачу аб выхадзе ў мацнейшую групу і гульня з японцамі нічога не вырашала.

## Гандбол: крыху лепш, чым у біятлоне...

У Кубку ЕГФ сярод мужчынскіх клубных каманд брэсцкі гандбольны клуб імя Мяшкова прайграў у паўторнай сустрэчы дацкаму "Ольбаргу" — 31:27. Нагадаем, што першая сустрэча гэтых каманд завяршылася нічыйным выхадам — 30:30.

**Падрыхтаваў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРИМИНАЛ

## Подвел мобильник

Индивидуальных предпринимателей Житковичского района обложили данью. Взносы от 65 до 100 тысяч рублей хотя и были, по большому счету, не столь значительны, но все-таки...

Такая ситуация была бы неудивительна, действуй в образе рэкетира представитель криминалитета. В данном случае роль "крыши" исполнял начальник районного отдела объединения "Охрана" Сергей Мороз. Уплаченные суммы освобождали предпринимателей от административной ответственности за допущенные и выявленные нарушения в сфере бизнеса.

Чашу терпения переполнило требование к одному из предпринимателей предоставить мобильный телефон. Сумма в 290 тысяч показалась запредельной, и тому пришлось обращаться в более компетентные органы. После получения мобильника "оборотня в погонах" задержали.

Районный суд с учетом всех обстоятельств уголовного дела приговорил взяточника к семи годам лишения свободы с содержанием в исправительной колонии усиленного режима. В течение двух лет после отбытия наказания виновному запрещено занимать должности, связанные с выполнением организационно-распорядительных обязанностей.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## П'яны пенсіянер пачаў страляць

Палічыўшы падлеткаў за злодзеяў, п'яны пенсіянер з вёскі Рамель Столінскага раёна стаў страляць у іх з паляўнічай стрэльбы.

16-гадовы вучань Рамельскай школы атрымаў шматлікія агнястрэльныя раненні шротам правай кісці, левага перадплечча і правага сцягна, яго 15-гадовы сябра — агнястрэльны пералом прамянёвай касці левай рукі і шматлікія сляпыя раненні шротам мяккіх тканак абедзвюх ног.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік прэс-службы УУС Брэсцкага аблвыканкама Віктар Васілеўскі, гэта здарылася прыкладна ў 21 гадзіну, а ўжо ў 23 гадзіны ў Давід-Гарадоцкі аддзел міліцыі прыехаў бацька аднаго з падлеткаў і напісаў заяву.

У той жа вечар на месца здарэння выехала аператыўная група. 65-гадовы жыхар вёскі Рамель быў затрыманы.

Усе матэрыялы міліцыя перадала ў Столінскую пракуратуру. Здароўю пацярпелых школьнікаў ужо нічога не пагражае.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Забойца пяці чалавек прысуджаны да расстрэлу

Пры актыўнай пазіцыі дзяржаўнага абвінаваўцы судовай калегіяй па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда да найвышэйшай меры пакарання — смяротнай кары — асуджаны раней шмат разоў судзімы Дабрынеўскі.

Як паведамілі ў прэс-цэнтры рэспубліканскай пракуратуры, гэты чалавек, знаходзячыся ў кватэры дома па вуліцы Каліноўскага ў Мінску, падчас сваркі пасля сумеснага ўжывання спіртных напояў з асаблівай жорсткасцю шматлікімі ўдарамі сякерай і нажом забіў пяць чалавек, у тым ліку непаўналетнюю вучаніцу 11-га класа.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Рябина и вылечит, и запасы сохранит

*Народная медицина ценит полезные свойства рябины. Причем в дело идут плоды, листья, цветки и даже кора*



***Красновато-оранжевые плоды рябины обыкновенной созревают осенью и обычно сохраняются на ветках до самого снега, пока ягоды, схваченные морозом и присыпанные снегом, не склюют птицы.*** Яркие гроздья рябины нашли у русского народа самое широкое применение. Так, жители деревень, где в изобилии произрастает рябина, до сих пор перекладывают заготовленные на зимнее хранение фрукты и овощи листьями рябины.

### Заслуженный почет

Рябину можно увидеть на живописных полотнах художников, в народных орнаментах на полотенцах, рубашках, салфетках. Засушенные рябиновые кисти раскладывали на зиму между рамами в окнах, чтобы они всю зиму радовали глаз. Не только за красоту ценится в народе рябина. ***Ценные свойства ее плодов обнаружили еще в глубокой древности и использовали для лечения дизентерии и цинги.*** Как в свежем, так и в сушеном виде.

Плоды рябины особенно полезны как поливитаминное сырье. ***В них высоко содержание провитамина А, витамина Р и аскорбиновой кислоты.*** Пектины плодов рябины препятствуют избыточному брожению углеводородов, что уменьшает газообразование в кишечнике. В последние годы внимание ученых привлекли особенности парасорбиновой и сорбиновой кислот рябины, обнаруженных более 100 лет назад. ***Оказалось, что они тормозят рост микроорганизмов, грибов и плесеней,*** поэтому не только нормализуют работу кишечника, снимают воспалительные процессы, но и могут быть использованы в качестве консервантов пищевых продуктов. А масляный экстракт из семян рябины обладает выраженными антибактериальными свойствами в отношении даже паратифиозных заболеваний.

### От семи недуг

***Содержащиеся в плодах кислоты и горечи наряду с желчегонным эффектом повышают секрецию и усиливают переваривающую способность желудочного сока, что в совокупности улучшают пищеварение и нормализуют обмен веществ.*** Масляные извлечения из плодов оказывают рано- и язвозаживляющее, противовоспалительное действие.

Кроме того, ***имеются данные об успешном применении рябины в лечении атеросклероза, так как содержащийся в ее плодах амигдалин защищает жиры от переокисления.*** Как оказалось, он обладает еще радио- и рентгенозащитным свойствами.

**Фото ByMedia.net**

## Вторник, 23 декабря

### БТ

07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00 Новости.
07.05, 08.10 "Доброе утро, Беларусь!" Информационно-музыкальная программа.
08.45, 14.45, 16.45, 23.25 "Моя страна".
09.05 Исторический сериал **"Дело Дрейфуса"** (Международный Французский Канал).
10.05, 17.05 Детективный сериал **"Воскрешая мертвых"** (Великобритания). Фильм 5-й **"Нищий слепец"**. 2-я серия.
11.05, 18.05 Сериал **"Самозванцы"** (Россия).
12.10 "Зона Икс".
12.30 Боевик **"Сын за отца"** ("Беларусьфильм").
14.05 "Все нормально, мама!" Музыкально-развлекательная программа.
15.10 "Время спорта". Еженедельная спортивная программа.
15.35 "Маски-шоу".
16.05 "5х5". Программа для молодежи.
19.05 Комедия **"Ассоциация злоумышленников"** (Франция).
21.00 "Панорама". Информационный канал.
21.45 Боевик **"Крутой полицейский"** (США).
23.35 "Клип-обойма".
23.50 "Любой каприз".

### ОНТ

08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10 Наши новости.
08.05 Телеканал "Доброе утро".
09.05, 19.10 "Земля любви, земля надежды". Сериал.
09.55, 22.00 Детектив **"Участок"**. (Россия, 2003 год).
10.50 Дисней-клуб. "Ким Пять-с-плюсом".
14.30 "Город женщин". Телевизионное шоу.
15.30 "Угадай мелодию" с Валдисом Пельшем.
16.00 Сериал **"Берег мечты"**. 80-я серия.
16.50 "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
18.15 "Кумиры". Татьяна Конюхова.
18.40 "Шутка за шуткой". Юмористическая программа.
20.00 Время.
21.00 "Слабое звено" с Марией Киселевой.
23.25 "Не только о футболе". Спортивное обозрение.
23.50 Ток-шоу "Окна".
00.35 "На футболе" с Виктором Гусевым.

### РОССИЯ

07.45, 19.55 Худ. фильм **"Тайны дворцовых переворотов. Россия, век XVIII..."** (2000 г.).
09.30 "ХА". Маленькие комедии.
09.45 Вести. Дежурная часть.
10.00, 19.00 Вести.
18.00 Телесериал **"Русские амазонки"**.
19.30 Местное время. Вести-Москва.
19.50 Спокойной ночи, малыши!
21.45 Вести. Дежурная часть.
22.00 Вести+.
22.20 Премьера. "Неизвестный Берия. Полвека после расстрела". 2-я серия.

### ЛАД

07.00, 14.00, 20.00 Новости.
07.10 "Болек и Лёлек". "Странствующий цирк", "Канарейка". Мультфильмы.
07.30 Мультсериал "Вокруг шпионы" (Международный Французский Канал).
07.50 "Учительская". Развлекательно-познавательная программа.
08.05, 22.05 Сериал **"Петербургские тайны"** (Россия).
09.00 "Провинциальные истории".
09.30 "Мгновение вечности". Исторические расследования.
09.50 "Другие танцы".
10.00 **"Между нами, женщинами"**. Тележурнал.
10.20, 21.15 Сериал-мелодрама **"Грешная Анхелика"** (Венесуэла).
11.05 "Волчище - серый хвостище". Мультфильм.
11.15, 13.15 "Обычный необычный день". Семейный канал.
11.50 Художественный фильм **"Архимед-бродяга"** (Международный Французский Канал).
13.40 "Дед Мороз и лето". Мультфильм.
14.10 "Не зевай!" Телеканал для детей.
14.50 "Про буку", "Дракон". Мультфильмы.
15.20 Приключенческий сериал **"Наши самые прекрасные каникулы"** (Международный Французский Канал).
15.45 "Не зевай!" Телеканал для детей.
15.55 Тележурнал для школьников "Бум".
16.20 Научно-популярный сериал **"Кассиопея"** (Международный Французский Канал). 1-я серия **"Европа космическая и ее завоеватели"**.
16.50 "Росчерк времени". Телеочерк.
17.05 "Зима", "Гродно. Фарный костёл". Видеофильмы ("Белвидеоцентр").
17.25 205 лет со дня рождения А.Мицкевича. "Он родился на Рождество". Литературная композиция.
17.55 "Ностальжи". Эстрадно-хореографический ансамбль танца "Чараўніцы".
18.20 Мелодрама **"Только одна жизнь"** (Международный Французский Канал).
20.15 Колыбельная.
20.30 "Дела семейные".

### НТВ

09.00 Сегодня утром.
09.25 "Их нравы" с Дмитрием Захаровым.
10.15 Ток-шоу "Страна советов".
11.00, 16.00 "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
14.35 Ток-шоу "Принцип домино".
16.30 Сериал **"Она написала убийство"** (США).
17.35 Территория выживания.
18.00 "Сегодня" с Татьяной Митковой.
18.40 Детективный сериал **"Москва. Центральный округ"**. 10-я серия.
19.50 Премьера. Сериал **"Чужое лицо"**. 6-я серия.
21.00 "Страна и мир". Главные события дня.
21.35 Красная стрела.
21.50 Боевик **"Отмщение"** (США).

### СТВ+RenTV

06.25, 15.25 **"Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе"**. Телесериал.
06.50 "Трансформеры". Мультипликационный сериал.
07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45 "24 часа".
07.50 "СТВ-спорт". Телеальманах.
08.15 "Минщина. Люди, события, факты".
08.30 "Технология".
08.40 Остросюжетный фильм **"Грабеж"**. (США, 2001 г.).
10.20 "Столичный футбол с Юрием Пудышевым". Спортивная программа.
10.45 "Пока горит свеча".
11.15 "Добро пожаловать...".
11.25 "Дикая планета": "Среди диких зверей". Документальный фильм.
12.00 **"Истинная любовь"**. Теленовелла.
12.55 "Очевидец" с Иваном Усачевым.
13.50, 18.30 **"Инструктор"**. Телесериал.
14.45 "Работа, которая называется "Сочинение". Документальный фильм цикла "Общий дом".
15.00 "Динозавры". Мультипликационный сериал.
15.50 "Маска". Мультипликационный сериал.
16.20 "Кадровый вопрос".
16.50 Комедия **"Забытая мелодия для флейты"**, 1-я серия. (СССР, 1987 г.).
18.05 "Минщина. Люди, события, факты".
18.15 "Здравствуйте, доктор!".
20.00 "СТВ-спорт".
20.15 "Тема дня".
20.25 Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
20.40 "Закон и криминал".
20.55 Триллер **"Вожделение"**. (США, 1993 г.).
23.05 "Горячий лед".
23.30 "Технология".
23.40 "Новости СНГ".
23.55 Мистический фильм **"Хэлп ми"**. (Россия, 1992 г.).

### 8-Й КАНАЛ

17.30 "Мультпарад" от "Бюргера".
17.45 Триллер **"Пока ты спал"**.
19.15 Документальный сериал "Причуды природы".
19.40 "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
19.45 Сериал **"Влюбленный Д'Артаньян"**.
20.40 Телемагазин.
20.45 "Вечарніца".
21.00 Программа "Крестьянские ведомости".
21.30 Художественный фильм **"Вертикальный предел"**.

### ТВ ЦЕНТР

05.00 Информационно-развлекательный канал "Настроение".
07.45 Газетный дождь.
07.55 **"Наградить (посмертно)"**. Художественный фильм.
09.30 "Оля - находка для России". Документальный фильм.
09.40 Телемагазин.
10.00, 13.00, 17.00, 21.00 События. Время московское.
10.15 Телеканал "Дата".
11.10 "Момент истины". Авторская программа А.Караулова.
12.05 Доходное место.
12.10 Петровка, 38.
12.30 Деловая Москва.
13.15 **"Инспектор Кестер"**. Детективный сериал (Германия).
14.20 Фантазии "Вемины".
14.30 Я - мама.
15.00 Регионы: прямая речь.
15.30 Идущие вперед.
16.00 **"Комиссар Мулен"**. Телесериал (Франция).
17.15 Очевидное - невероятное.
18.00 **"Разлученные"**. Телесериал (Мексика).
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.00 Лицом к городу.
20.00 **"Сдвинутый"**. Телесериал (Россия). 1-я серия.
21.40 Отдел "Х".
22.25 Времечко.
22.55 Петровка, 38.
23.15 25-й час. События. Время московское.
23.35 Серебряный диск.
23.55 **"Салли Хеммингс — американский скандал"**. Художественный фильм (США). 1-я серия.
00.55 - 01.35 "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

09.30 Сноуборд.
10.00 Футбол. УЕФА. Лучшие 50. Повтор.
11.00 Футбол. Порто. Обзор.
13.00 Футбол. УЕФА. Повтор.
15.00 Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Куусамо. К-120. Повтор.
17.00 Футбол. Кубок мира. Женщины. США. Спецобзор.
18.00 Футбол. Товарищеский матч. Друзья Шумахера. Повтор.
20.00 Футбол. УЕФА. Лучшие 50. Повтор.
21.00 Бокс.
00.30 "Олимпийские игры". Журнал. Рождественский спецвыпуск.
01.15 Мотогонки. Гран-при. Обзор сезона. Журнал.



**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

Рэдактар нумара Мікіта ЛАЎСКІ



Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 720 экз. Заказ № 863.